**27 лістапада (1920 г.) - Дзень Слуцкага збройнага чыну (Дзень Герояў). Святкуйма сваё!**

***Разблытайма таямніцы!***

# Скарб думак

**№ 5.**

ПАНЯДЗЕЛАК
24
ЛІСТАПАДА
2003 ГОДА

*Незалежнае рознабаковае выданне*

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ

## Яны пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь

(стар. 2)

**У гэтым нумары чытачы "Скарба Думак" могуць прачытаць працяг расповеду са старонак кнігі Захара Шыбекі "Нарыс гісторыі Беларусі ад 1795 да 2002 г.", сігнальны асобнік якой неўзабаве пабачыць свет.**

*Глядзіце старонкі 3-4.*

## Якія гістарычныя даты павінны памятаць і шанаваць беларусы?

**25 сакавіка (1918 г.) - Дзень Незалежнасці.** У гэты дзень Трэцяя Ўстаўная грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі абвясціла БНР незалежнаю і вольнаю дзяржавай.
**15 ліпеня (1410 г.) - Свята Грунвальду** (Свята перамогі пад Дуброўнай) - дзень перамогі аб'яднанага войска Беларускай і Польскай дзяржаваў над крыжакамі.
**6 жніўня (1517 г.) - Дзень друку** - выданне ў Празе Францішкам Скарынам першае беларускае друкаванае кнігі.
**25 жніўня (1991 г.) - Дзень Адраджэння** - наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі сілы канстытуцыйнага закону, аднаўленне незалежнае дзяржаўнасці.
**8 верасня (1514 г.) - Свята Аршанскае перамогі** (Дзень беларускай вайсковай славы). Беларускае войска ўшчэнт разбіла ўтрая большае войска Маскоўшчыны і на пэўны час спыніла расейскую агрэсію на Беларусь.
**27 лістапада (1920 г.) - Дзень Слуцкага збройнага чыну (Дзень Герояў).** У гэты дзень пачаў баявыя дзеянні супраць бальшавіцкага войска Першы Слуцкі полк Беларускае Народнае Рэспублікі.

Складанне: Іван Саверчанка, Зьміцер Санько
Крыніца: 150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі. Менск, 1999.
1-е выданьне: 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі. Менск, Звязда, 1993.

Беларуская Палічка: http://www.knihi.com

## Што такое Слуцкі збройны чын?

Крыніца: 150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі. Менск, 1999.

Увосень 1920 года, калі Расея і Польшча падпісалі замірэнне, вызначаная дэмаркацыйная лінія Кіевічы-Лань і нейтральная зона паўз яе прайшлі праз Случчыну. Варта адзначыць, што Случчына была адной з найбагацейшых і найбольш нацыянальна сведамай беларускай правінцыяй. Тут традыцыйна існаваў моцны асяродак нацыянальна-вызвольнага руху.

Гэты час міжуладдзя, калі палякі адступілі, а расейцы яшчэ не прыйшлі, беларускія дзеячы ў Слуцку выкарысталі для арганізацыі змагання за самастойную Беларусь, за ўсталяванне ўлады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанай у сакавіку 1918 года.

14 лістапада 1920 года быў скліканы з'езд Случчыны, які праходзіў у доме Э.Вайніловіча. З'езд выбраў часовы ўрад - Раду Случчыны на чале з Уладзімірам Пракулевічам і пастанавіў распачаць збройнае змаганне супраць чужынцаў. Рада пачала стварэнне вайсковых фармаванняў, была аб'яўленая мабілізацыя, якая прайшла вельмі актыўна сярод насельніцтва Слуцкага павета - Цімкавічаў, Капыля, Семежава, Грозава і іх ваколіцаў. У кароткім часе сабралася блізу 10 000 чалавек. Беларускія жанчыны з Горадні прыслалі для случакоў сцяг з прыгожа вышытаю «Пагоняю» і надпісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

Былі сфармаваныя два палкі: 1-шы Слуцкі полк на чале з падпалкоўнікам Ахрэмам Гаўрыловічам і 2-гі Грозаўскі полк пад камандаю капітана Семянюка, аб'яднаныя ў Слуцкую брыгаду, якую ўзначальваў Антон Сокал-Кутылоўскі. У сувязі з наступам Чырвонай арміі штаб паўстання быў перанесены са Слуцка ў Семежава.

27 лістапада пачаліся баі. Асабліва адчувальныя для бальшавікоў былі ўдары па лініі Капыль-Цімкавічы-Вызна (цяпер Красная Слабада). Супраць случакоў была кінутая Омская дывізія. Яны мужна змагаліся, іх шырока падтрымлівала мясцовае насельніцтва, але сілы былі няроўныя. Пасля больш як месяца ўпартых баёў нашы ваяры змушаныя былі адысці за раку Лань, дзе былі раззброеныя палякамі і змешчаныя ў спецыяльны лагер для інтэрнаваных асобаў.

Сярод найбольш актыўных удзельнікаў змагання былі Павел Жаўрыд, Юрка Лістапад, Макар Краўцоў (аўтар ваяцкага марша «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які стаў гімнам БНР) Васіль Русак, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Янка Бірукові. Многія са змагароў вярнуліся пазней на радзіму, паверыўшы ў магчымасць адбудовы Беларускага гаспадарства пад бальшавікамі, але былі знішчаныя ў часе рэпрэсій.

Падзеі 1920 года ўвайшлі ў гісторыю пад назовам Слуцкі збройны чын, або Слуцкі збройны ўздым (часам гэта называюць паўстаннем, але такі назоў не зусім адпавядае сутнасці падзеяў). Яны з'яўляюцца яскравым сведчаннем нязгаснага імкнення беларускага народа да незалежнасці, яго рашучасці ў змаганні за волю.




## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

— Мне гавораць сёння пра тое, што насельніцтва плаціць 60—70 працэнтаў па ЖКГ — гэта сапраўдная лухта, — заявіў Аляксандр Лукашэнка. — Гэта налічыў міністр са сваімі камунальшчыкамі.

Усё залежыць ад таго, як лічыць. Калі адняць зарплаты асобных начальнікаў райкамунгасаў, якія часам значна вышэй за прэзідэнцкую, і іншыя неапраўданыя выдаткі, то можа аказацца, што мы аплачваем усе 100, а то і больш працэнтаў сабекошту камунальных паслуг.

ЗВЯЗДА
2 лістапада 2003 г.
Сяргей ПРОТАС.

## ХЛУСНЯ ТЫДНЯ

**На мінулым тыдні (17-23 лістапада) не працаваў тэлевізійны"8 канал", нягледзячы на тое, што праграма яго ТВ-перадач друкуецца спраўна.**

## КАЛАЖ



Выява «Пагоні» на пячатцы полацкага князя Глеба. 1330 год



Герб «Пагоня» на надмагіллі Ягайлы. Першая палова XV стагоддзя

**Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь**
(*19 верасня 1991 г. – 14 траўня 1995 г.*)



**100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі**/Уклад. і прадм. І. Саверчанка, З. Санько.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.—190 с.: іл.




## ПЕРАДРУК

**• Крывавыя плямы чырвонай гісторыі**

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ

# Яны пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь

### Слуцкі збройны чын 1920 году: арганізатары, асноўныя чыннікі, маштабы і ягонае значэнне ў акрэсе гістарычнага лёсу Беларусі пачатку XX стагоддзя



**СЛУЦКАЯ БРЫГАДА**

...Не паспеўшы канчаткова сфарміраваць абодва палкі, Слуцкая брыгада разам з Радаю Случчыны адышла на захад, у мястэчка Семежава, якое знаходзілася ў нейтральнай зоне (прыкладна ў 8 кіламетрах на ўсход ад граніцы). Тут да канца лістапада 1-шы Слуцкі полк быў ужо сфаміраваны, а фарміраванне 2-га Грозаўскага палка амаль ужо скончылася.

Колькасны састаў Слуцкай брыгады ў гэты перыяд, як сведчыла гродзенская газета "Беларускае Слова", складаў чатыры тысячы чалавек. Потым ён пабольшыўся. Разам з рэзервам Слуцкая брыгада налічвала 10 тысяч чалавек.

На ўсіх зброі не хапала, як спачатку, так і пасля. На пачатку ваенных дзеянняў у Слуцкай брыгадзе налічвалася ўсяго 300 карабінаў, якія былі перададзены польскімі ўладамі, і 500 вінтовак, што прынеслі з сабой самі паўстанцы-добраахвотнікі. Потым, праўда, выявілася, што польскія карабіны былі перададзены са збітымі прыцэламі або іншымі пашкоджаннямі і для баёў аказаліся непрыдатнымі.

Пасля пачатку паўстання праз Беларускую вайсковую камісію ў Польшчы з Лунінца брыгадзе былі перададзены яшчэ вінтоўкі і кулямёты. Частка зброі была атрымана ад дэзерціраў або ўзята ў баях як трафеі. Ужо ў снежні 1920 года Слуцкая брыгада мела 2000 вінтовак і 10 кулямётаў. Аднак зброі на ўсіх не хапала. Гэта вельмі адбілася на ходзе баявых дзеянняў. Артылерыі ў паўстанцаў зусім не было. Забеспячэнне спачатку, дзякуючы добраахвотным ахвяраванням сялян, было наладжана добра, але потым, па меры скарачэння тэрыторыі пад кантролем паўстанцаў, пачало пагаршацца.

Камандзірам брыгады Рада Случчыны прызначыла аднаго са сваіх сяброў — капітана Анцыповіча, які, як і іншыя афіцэры брыгады, меў багаты баявы вопыт пад час першай сусветнай вайны. Камандзірам 1-га Слуцкага палка быў прызначаны капітан генеральнага штаба рускай арміі Павел Чайка (ураджэнец Случчыны), які да другой польскай акупацыі быў на пасадзе памочніка ваеннага кіраўніка Слуцкага павятовага ваенкамата. Камандзірам 2-га Грозаўскага палка стаўся капітан Семянюк, які з лютага 1920 года быў камандзірам Першага Беларускага партызанскага атрада, што быў створаны Беларускай вайсковай камісіяй у Менску.

Брыгада была пяхотнай. Яе абодва палкі падзяляліся на батальёны і роты. У брыгадзе і палках былі свае штабы. У складзе брыгады знаходзіліся таксама конны атрад, палкавыя абозы і зброевая майстэрня. Быў яшчэ сфаміраваны і асобны ад брыгады атрад з дзвюх рот. Пры штабе брыгады былі ўтвораны аддзелы разведкі і контрразведкі. Лекар А.Паўлюкевіч разгарнуў палявы шпіталь, а Янка Біруковіч стаўся старшынёй вайскавога суда.

Такім чынам, за некалькі дзён было створана вайсковае аб'яднанне рэгулярных войск Беларускай Народнай Рэспублікі.

**ПАЎСТАННЕ**

У канцы лістапада 1920 г. пачалося Слуцкае паўстанне, гераічны чын беларускага народу ў змаганні за незалежнасць Беларусі. Яно ахапіла тэрыторыю той часткі Слуцкага павету, якая ўжо ўваходзіла пасля падпісання Рыжскага дагавору аб перамір'і і прэймінарных умовах мірнага дагавору ў склад БССР і часткова Польшчы, г.зн. тэрыторыю цяперашніх Слуцкага, Капыльскага, Клецкага, Салігорскага і Жыткавіцкага раёнаў.

Баявыя дзеянні слуцкіх паўстанцаў пачаліся з 27-га лістапада 1920 г. і скончыліся 28 снежня таго ж года.

Ужо ў канцы лістапада 1920 года 1-шы Слуцкі полк займаў участак фронту ад мястэчка Семежава да мястэчка Вызна, г.зн. працягласцю прыкладна 20 кіламетраў. Ад 27 лістапада падраздзяленні 1-га Слуцкага палка рабілі пастаянныя налёты на месцы размяшчэння часцей 8-й дывізіі Чырвонай арміі, на яе палявыя каравулы і заставы на дэмаркацыйнай лініі. Як раз у гэты час чырвонаармейскія часці канчаткова займалі гэтую лінію, скончыўшы яе заняцце 29 лістапада. У наступныя дні паўтараліся безупынныя напады з нейтральнай зоны і на ўчастку размяшчэння 2-га Грозаўскага палка на палявыя каравулы савецкіх часцей, асабліва моцныя на ўчастку Капыль-Цімкавічы-Вызна, ужо працягласцю 60 кіламетраў.

Спачатку камандаванне Чырвонай арміі не ведала, што яно сутыкнулася з узброенымі сіламі Слуцкай брыгады. Яно прыняло іх за часці Булак-Балаховіча. Так, у аператыўнай зводцы палявога штабу Чырвонай арміі ад 2 снежня 1920 года гаварылася:" У Слуцкім раёне ў 20 вярстах на паўночны захад (раён паміж Капылём і Гразавым — А.Г.) і ў 25 вярстах на паўднёвы захад ад Слуцка (раён Вызны — А.Г.) адбываюцца сутычкі з дробнымі вандроўнымі атрадамі балахоўцаў". На самой справе тут узброеных атрадаў Булак-Балаховіча ніколі не было, і ўвогуле акцыя Балаховіча на Палессі ўжо скончылася. Аднак разведка Чырвонай арміі дзейнічала недасканала.

Камандаванне 16-й арміі Савецкіх войск вырашыла ачысціць нейтральную зону ад паўстанцаў (хаця па ўмовах пераміра'я ў нейтральную зону, нават на сваёй тэрыторыі, войскі абодвух бакоў заходзіць не мелі права). Польскія ўлады далі дазвол на ўваход савецкіх войск у нейтральную зону на тры дні, пачынаючы з раніцы 4 снежня. На працягу месяца, пакуль доўжылася паўстанне, польскія ўлады неаднаразова дазвалялі чырвоным войскам заходзіць у нейтральную зону. Гэтая пастава польскага ўраду таксама была варожай у дачыненні да паўстанцаў, бо ён адмоўна адносіўся да паўстанцаў. Аднак гэтая карная аперацыя Чырвонай арміі дала мізэрны вынік: было затрымана каля 50 дэзерціраў і 15 перабежчыкаў. Камандаванне Слуцкай брыгады, карыстаючыся падтрымкай мясцовага насельніцтва, вывела свае асноўныя сілы з-пад удару чырвоных войск. Тады рэўваенсавет Заходняга фронту ўсклаў кіраўніцтва аперацыяй па барацьбе з паўстанцамі на рэўваенсавет 16-й арміі з падначаленнем яму ўсіх атрадаў унутранай службы, губчэка, асобых аддзелаў і загараджальных атрадаў, якія знаходзіліся ў раёне размяшчэння арміі.

Толькі ў раёне Семежава частка атрадаў паўстанцаў была разбіта і 7 снежня перайшла польскую граніцу. Пры тым польскія ваенныя ўлады разбройлі 30 афіцэраў і 400 салдат з дзвюх рот Слуцкай брыгады. Сама ж брыгада адышла да самай граніцы (на 8 кіламетраў на захад ад Семежава).

У гэты ж час у кіраўніцтве паўстанцаў рознагалоссі прывялі да змены камандавання брыгадай. Камандзір 1-га Слуцкага палка капітан П.Чайка быў арыштаваны па абвінавачанню ў здрадзе. Ён, былы савецкі работнік Слуцкага ваенкамата, спрабаваў перадаць пакет з сакрэтнымі дакументамі на савецкі бок, але старога дзеда, якога П.Чайка паслаў у Слуцк з гэтымі дакументамі, затрымалі, П.Чайка быў арыштаваны, але здолеў збегчы з арышту ў Слуцк. Аднак там ён быў таксама арыштаваны за здраду і пасля прыгавору ваенна-палявога суда чырвоных адразу ж расстраляны.

Рада Случчыны сабралася на надзвычайнае пасяджэнне і пастанавіла змяніць камандзіра брыгады і начальніка контрразведкі. Камандзірам 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР быў прызначаны штабс-капітан Антон Сокал-Кутылоўскі, а камандзірам 1-га Слуцкага палка падпалкоўнік Гаўрыловіч (раней камандзір 4-га батальёну гэтага ж палка). Камандзіру брыгады Рада Случчыны часова перадала дыктатарскія паўнамоцтвы.

Цяпер штаб Слуцкай брыгады знаходзіўся ў вёсцы Грыцэвічы, у 2 кіламетрах ад ракі Лані, у нейтральнай зоне, але ўжо на тэрыторыі, якая адыйшла да Польшчы паводле мірнага дагавора. Пасля вяртання Савецкіх часцей з нейтральнай зоны на дэмаркацыйную лінію паўстанцы вярнуліся на свае пазіцыі і зноў пачалі нападаць на перадавыя атрады Чырвонай арміі.

Ваенныя дзеянні працягваліся. Звычайна гэта былі начныя налёты. Так, у ноч на 10 снежня быў зроблены напад на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-е на вёску Старынь. Потым паўстанцы зрабілі спробу адцясніць перадавыя часці Чырвонай арміі з займаемых імі пазіцый.

Быў распачаты наступ на мястэчкі Семежава і Вызна. У ноч на 13 снежня паўстанцы зноў занялі Семежава, але потым з боем адышлі. Штаб Слуцкай брыгады перамясціўся ў вёску Морач ( у 20 кіламетрах на захад ад Вызны). У наступных баях у ноч на 18 снежня атрады паўстанцаў зноў занялі Семежава, а ў наступную ноч пасля бою занялі Вызну і прасунуліся на ўсход ад яе.

Сабраўшы значныя сілы, раніцай 19 снежня войскі Чырвонай арміі пачалі свой наступ, каб ліквідаваць узброенае паўстанне. У гэты ж дзень чырвонымі было адбіта мястэчка Вызна. Паўстанцы пачалі адыходзіць на захад да вёскі Смолічы (у 10 кіламетрах на захад ад Вызны). 20 снежня яны былі выцеснены да ракі Морач. У той жа дзень чырвоныя выбілі іх і з Семежава.

А ў гэты час па ўзгадненню дэлегацый на мірных перагаворах у Рызе, войскам Чырвонай арміі дазвалялася ўвайсці ў нейтральную зону і праследаваць паўстанцаў нават на польскай тэрыторыі.

Штаб Слуцкай брыгады вымушаны быў перабрацца ў вёску Заастравечча (Клецкі раён) каля ракі Лані, за якой стаялі польскія войскі. Сюды збіраліся часці паўстанцаў, якім было нанесена паражэнне і ў якіх было мала зброі і боепрыпасаў.

Рада Случчыны прыняла рашэнне аб пераходзе Слуцкай брыгады праз раку Лань. Перад самым пераходам 1-ы Слуцкі полк за ўдзел у баях атрымаў ад Рады палкавы сцяг залацістага колеру. На ім быў надпіс: Першы Слуцкі полк Беларускай Народнай Рэспублікі.

28 снежня 1920 года палкі Слуцкай брыгады перайшлі раку Лань у раёне размяшчэння 41-га польскага палка. Салдаты і афіцэры Слуцкай брыгады былі раззброеныя і інтэрнаваныя спачатку ў часовым лагеры ў мястэчку Сіняўка (Клецкі раён), потым у лагеры ў Беластоку, а пасля — у лагеры ў Дарагуску. Яны былі вызвалены з лагера толькі ў маі 1921 года, ужо пасля падпісання (сакавік 1921 года) і ратыфікацыі канчатковага расейска-польскага мірнага дагавора.

Але са складу брыгады адзін батальён (каля 400 чалавек) на чале са сваімі афіцэрамі застаўся ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару асобнымі групамі. Гэтыя партызанскія групы, разам з іншымі, працягвалі барацьбу яшчэ доўгі час.

У акрэсе гістарычнага лёсу Беларусі пачатку XX стагоддзя Слуцкі збройны чын адыграў значную ролю. Гэта быў патрыятычны выступ беларускага сялянства і інтэлігенцыі ў барацьбе за незалежнасць Беларусі, за самастойную дзяржаву з легальнай дэмакратычнай уладай. Ён быў накіраваны супраць ганебнага падзелу тэрыторыі Беларусі паміж Расіяй і Польшчай.

Слуцкія паўстанцы за сціплы тэрмін здолелі ўтварыць баявыя адзінкі беларускага нацыянальнага войска, якія, натхнёныя любоўю да Бацькаўшчыны, здолелі ў неспрыяльных умовах весці цяжкую і напружаную барацьбу супраць больш мацнейшага праціўніка. Аднак у тых абставінах, якія склаліся ў канцы 1920 года, без якой-небудзь дапамогі звонку, пры варожай па сутнасці пазіцыі Польшчы, лёс паўстання быў прадвырашаны. Але гэта не змяншае ягонае значэнне. Слуцкі збройны чын 1920 года ўвайшоў у гісторыю як гераічны падзвіг беларускага народу.



**Нашчадкі случчакоў. Змаганне за волю працягваецца...**

*Фота С. Чырыка, "БМ"*

## З ГІСТОРЫІ "ІНТЭГРАЦЫІ"

"Литовские (г.зн. беларускія) города и веси, связанные с партизанами, повоевать и выжечь и разорить совсем без остатку".

"Людей литовских побивать сколько бог милостивый силы подаст".

"Книги литовской печати жечь на пожарах, чтобы та ересь и смута в мире не была".

***(з загадаў цара Аляксея Міхайлавіча, 1658 г.)***

"Вокруг Слуцка велели мы все выжечь, а идучи дорогою до Слонима села и деревни и хлеб и сено по обе стороны жгли и людей побивали и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей побили всех".

***(з данясення ваяводы Трубяцкога маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу, 1658 г.)***

"Сии провинции (Беларусь) надлежит привести легчайшим образом к тому, чтобы они обрусели".

***(імператрыца Кацярына II, 1795 г.)***

"Что не смог сделать русский штык, доделает русская школа... Тот житель этого края (г.зн. Беларусі), кто не захочет преобразиться в русского, будет считаться иностранцем и должен оставить его навсегда".

***(генерал-губернатар "Северо-Западного края" Міхаіл Мураўёў, 1864г.)***

"Здешние учебные заведения (г.зн. у Беларусі) должны избегать местных уроженцев и пополняться переселяющимися из великорусских губерний чиновниками".

***(апякун Віленскай навучальнай акругі І.П. Карнілаў, 1863г.)***

Республика (БССР) — буферная и нужна нам постольку, поскольку граничит с другими странами. Поскольку Смоленская, Витебская и Могилевская губернии не граничат с другими странами — постольку их можно исключить".

***(старшыня Савета народных камісараў РСФСР У.І.Ленін, 1919 г.)***

"Лаврентий, попробуй по своим каналам прозондировать почву для заключения нового Брестского мира с Германией, сепаратного мира. Пойдем на то, чтобы отдать Прибалтику, Белоруссию, часть Украины — на любые условия".

***(распараджэнне І.В. Сталіна Л.П. Берыю 7 кастрычніка 1941г. — з успамінаў маршала Г.К. Жукава)***

"С точки зрения российских экономических интересов в Белоруссии абсолютно безразлично, кто будет руководить этой республикой в будущем — Лукашенко, Шарецкий или кто-либо еще из нынешней республиканской номенклатуры. Главное для России — чтобы он не разделял программного положения праворадикального Белорусского Народного Фронта о том, что "геополитическое положение Беларуси является ее главным источником финансовых ресурсов". Как сейчас, так и в будущем российские интересы в этом государстве будут прежде всего связаны с транзитом российского газа в Западную Европу".

***(газета "Коммерсант-дейли". Масква, 26 лістапада 1996 г.)***

## Захар ШЫБЕКА

# НАРЫС ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ АД 1795 ДА 2002 Г.

## IX. ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ НАЦЫІ.

## 34. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ПАРЛАМЕНЦКАЯ. 1991-1994.

*/працяг, пачатак у №№ 3-4 "Скарба Думак"/*

У той жа год прынята Дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце" з мэтаю гуманітарнай падтрымкі беларускай дыяспары. У незалежнай Беларусі ўзнікла магчымасць паўплываць на запавольванне працэсаў асіміляцыі беларусаў замежжа і, больш таго, выкарыстаць іх у палітычнай, навукова-культурнай і гаспадарчай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны. Тым больш, што яны самі выяўлялі жаданне прымаць удзел у вырашэнні нацыянальных праблем Беларусі, ў барацьбе з наступствамі чарнобыльскай бяды. Але першы незалежны беларускі ўрад усё ж вельмі слаба супрацоўнічаў з беларусамі замежжа.

**Непадабенства з дыяспарай.** Вяртанне дыяспары ўзмацніла незалежніцкую партыю ў Беларусі, але не настолькі, каб аслабіць імкненне да Расіі. Незалежнасць не вызваліла жыхароў Беларусі ад псіхалогіі падданых расійскай дзяржавы. У выніку шматвекавой перманентнай падпарадкаванасці чужынцам беларускі народ згубіў традыцыі незалежнага жыцця. Ён не ведаў, што такое палітычная суверэннасць, каб свядома да яе імкнуцца, а потым гэту ж суверэннасць шанаваць. Жыхары Беларусі цярпелі ў першыя гады пасля развала СССР пакаранне посткамунізмам, гэта значыць, няўменнем карыстацца механізмам рыначнай эканомікі, незалежнасцю і дэмакратыяй. Захоўвалася небяспека савецкай рэстаўрацыі.

## 36. ПРАБЛЕМЫ СТАНАЎЛЕННЯ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ (ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ).

Беларусы за два стагоддзі нацыянальнага гнёту не сталі ні сапраўднымі палякамі, ні сапраўднымі рускімі. Не становяцца яны, чамусці, і сапраўднымі беларусамі.

### 36.1. Неразвязаныя вузлы беларускай нацыі.

**Рэлігія.** З-за шматканфесійнасці краіны паяднанне хрысціянскай і нацыянальнай ідэі дагэтуль выключаецца. Рэлігія не звязваецца з беларускай адметнасцю, не мадэлюе ўласную культуру і нацыянальную эліту, як у Польшчы, Літве, Украіне. У выніку страчваецца магчымасць грамадзянскай кансалідацыі на аснове адной канфесіі, нават на аснове самай вялікай — праваслаўнай. Адраджэнне ўніяцтва не выключае пагрозу ў будучым украінізацыі Беларусі. Таму ў такіх умовах беларуская нацыя можа складвацца толькі на ідэалах атэізму або нацыяналізму, якія адвяргаюць рэлігійнасць ці выходзяць за яе рамкі. Нацыяналізму не хапае. Пераважае атэізм і схільнасць да сацыялістычнай ідэалогіі. У гэтым — адметнасць беларусаў. Таму зразумела, што сучасная Беларусь можа існаваць толькі як атэістычна-савецкая ці нацыяналістычная дзяржава, калі паміж праваслаўем і каталіцызмам не замацуецца дыялог, калі яны не беларусізуюцца. **Неяк паспрыяць таму мог бы і пратэстантызм**. Гістарычны вопыт вымагае ад Беларусі арыентацыі на экумінізм.

**Мова**. У падцарскай Беларусі мова, на думку польскага сацыёлага Рышарда Радзіка, успрымалася не як паказальнік нацыянальнай рознасці, а як паказальнік сацыяльнага стану: беларуская — вясковая, польская — "панская", руская — чыноўніцкая. Каб выбіцца ў людзі, трэба было выбіраць польскасць або рускасць. Беларуская мова не звязвалася з нацыянальнай ідэалогіяй, гэтаксама як і руская, якая несла ў Беларусі пераважна наднацыянальныя ідэалы (хрысціянскія, бальшавіцкія і г.д.). Таму і зараз у беларусаў няма разумення важнасці мовы. Але ў іх ёсць падставы больш аптымістычна глядзець у будучыню. Ва ўмовах глабальнага культурнага дыялогу руская мова становіцца для беларусаў хутчэй непазбежным тэхнічным сродкам камунікацыі, чым фактарам культуры. У межах міжнародных дзелавых кантактаў узрастае роля англійскай мовы А ў межах уласнай культуры і традыцыі беларуская мова – па-за канкурэнцыяй. У гэтай сферы і руская мова — усяго толькі часовы дыялект беларускай. Гаварыць па-беларуску становіцца справай гонару ўсё большай колькасці грамадзян Беларусі. Існуе шанц ператварэння не толькі рускай, але і польскай, украінскай, літоўскай моў у сродак культурнага дыялогу, бо і спрадвеку беларускія землі былі шматмоўнымі. **Але па-беларуску народ загаворыць толькі тады, калі на роднай мове загаворыць начальства.**

**Гістарычная і культурная спадчына.** Гістарычнае бяспамяцтва і культурная недасведчанасць – гэта вынік страты ўласнай гістарычнай і культурнай традыцыі. Гісторыя Беларусі пры ўладзе камуністаў пачыналася з 1919 г., а ўсё, што стваралася на беларускай зямлі да 1920-х гадоў, лічылася польскім або рускім. У далейшым падтрымку мела толькі культура пралетарская па зместу. Таму зразумела, што гістарычны і культурны багаж большасці жыхароў сучаснай Беларусі і яе палітычных лідэраў дазваляе ім пачувацца ўпэўнена і годна толькі сярод прадстаўнікоў савецкай культуры. Сітуацыя зменіцца пасля засваення беларускім жыхарствам поўнай культурна-гістарычнай спадчыны і разбудавання сучаснай беларускай *масавай* культуры.

**Адчужанасць ад улады.** На Беларусі ўкаранілася пакланенне і страх перад уладай. Яна ставіцца вышэй рэлігіі, вышэй мовы. Так ужо тут павялося: калі ўлада руская, то і народ рускі, калі ўлада польская, то і народ польскі. За беларускасць заўсёды каралі ці рускія, ці палякі, ці ўлады польскія, ці ўлады расійскія. Таму беларусы і называлі сябе "тутэйшымі", пазней — проста савецкімі людзьмі. Сучасны ж дзяржаўны суверэнітэт, калі ён сапраўды існуе, дае жыхарам Беларусі права і на суверэнітэт духоўны. І гэты суверэнітэт не толькі "абясшкоджвае" рускія або польскія культурныя ўплывы, якія, як гэта лічыцца, вядуць да дэнацыяналізацыі, але і робіць іх прысутнасць на беларускай культурнай прасторы проста неабходнай.

**Нацыянальная эліта.** Яна традыцыйна праігрывала ў барацьбе за пашырэнне нацыянальнай ідэі, бо перыядычна вынішчалася або пераманьвалася на службу суседнім дзяржавам. Таму дзейнасць беларускай інтэлігенцыі стане абароненай і эфектыўнай тады, калі на дапамогу інтэлектуалам прыдуць "новыя" беларусы. Толькі з адраджэннем прыватнай уласнасці беларускасць пазбавіцца ад манапалізму дзяржавы і займее дадатковую, незалежную крыніцу фінансавання ў асобе нацыянальных банкіраў, гандляроў, фабрыкантаў, фермераў, "сярэдняга класа". Тады не будзе на прамую працаваць прынцып: якая ўлада — такая і нацыя. Пры любых геапалітычных арыентацыях жыхары Беларусі застануцца грамадзянамі Беларусі. Эканамічная моц верне ім страчаны духоўны суверэнітэт, нацыянальную годнасць, а палітычным лідэрам -- упэўненасць ва ўласныя сілы. Цяперашняя слабасць нацыянальных палітычных партый – ад жабрацтва.

**Урбанізацыя і нацыянальная кансалідацыя.** Беларускія гарадскія цэнтры не кансалідавалі жыхароў Беларускага краю. Тут шмат прычын. 1. Беларускі горад дэмаграфічна доўга праігрываў беларускай вёсцы. Улада заўсёды абапіралася не на горад, а на вёску. 2. Беларусы доўгі час былі нацыяй не толькі недзяржаўнай, але і негарадской (17% гараджан у 1897 г.). 3. У беларускіх гарадскіх цэнтрах ні ў XIX, ні ў XX стагоддзях не склаліся традыцыі дэмакратычнага кіравання. Тут адсутнічаюць прававыя ўзоры для фарміравання сучаснай беларускай нацыі і сучасных прававых дзяржаў. 4. Масавая культура, што ствараецца ў гарадах і павязвае нацыю, здаўна паслугоўваецца не беларускай, а рускай мовай. 5. Мінск не ёсць бясспрэчная сталіца Беларусі. Ён — не лепшая сталіца, бо не мае выдатнага гістарычнага мінулага ў параўнанні нават з Полацкам і прэзэнтуе савецкія грамадскія структуры. 6. Сярэднявечная традыцыя гарадскога жыцця беларускага народа была перарвана ў канцы 18 ст. і з той пары ён ніколі не пачуваўся ў горадзе бясспрэчным гаспадаром. Горад застаецца "чужым" для большасці жыхароў Беларусі і зараз. Варожасць да гарадской цывілізацыі трансфарміруецца ў варожасць да Захаду, да еўрапейскасці. 7. Імклівы рост гарадскога насельніцтва ў 60-70-х гадах не прывёў да трансфармацыі сялянскай ментальнасці перасяленцаў у ментальнасць гарадскую. Сялянскія па ментальнасці нацыі — дэкансалідаваныя і безабаронныя перад знешняй небяспекай. Такія нацыі лёгка прыстасоўваецца да ўлады нават калі яна чужынская. Новая сацыяльная мадэль нацыі (прыняцце багацця і беднасці як непазбежнасці) можа быць прынята людзьмі з урбанізаванай ментальнасцю, бо сяляне традыцыйна імкнуцца ўсіх зраўняць і ўсё падзяліць. Вось чаму каб стаць еўрапейцамі і сучаснай нацыяй, біларусам трэба стаць гараджанамі па ментальнасці. Па меры урбанізацыі правінцыяналізм пастунова саступае месца ўпэўненасці ва ўласныя сілы, узрастае аўтарытэт сваіх нацыянальных цэнтраў. З'яўляецца ўсведамленне, што тут у Беларусі наша Масква, наша Варшава, наш Парыж. ➾

**Выбар мадэлі нацыі.** Вопыт гісторыі паказвае – надзейней разлічываць на кансалідацыю ўласных унутраных сіл. Тым больш, што беларускі нацыянальны праект вось ужо на працягу двух стагоддзяў застаецца малапаспяховым у значнай ступені таму, што ў аснове яго традыцыйна застаецца разлік на падтрымку знешніх сіл (гл.далей "Назойлівая думка"). А яны, як вядома, ніколі нацыянальных памкненняў беларусаў шчыра не падтрымалі. Таму з улікам рэальнай сітуацыі краіне належыць арыентавацца не на культурную (этна-моўную ці субстанцыянальную) мадэль нацыі, а на мадэль дзяржаўна-палітычную (функцыянальную). Усё, што на Беларусі, ёсць беларускае. Усе грамадзяне Беларусі з'яўляюцца беларусамі. Гэта дазваляе ўсім жыхарам Беларусі пачувацца гаспадарамі на беларускай зямлі, успрымаць Беларусь ва ўсёй яе сукупнасці як добрага, так і дрэннага.

**36.2. Беларусь – вядомая і невядомая.**

**Прывязанасць да Расіі**. За беларусамі замацавалася ўяўленне, што яны мала чым адрозніваюцца ад рускіх і не бачаць сваёй будучыні па-за Расіяй. У савецкі перыяд, і асабліва пасля вайны, беларускі народ быў вельмі моцна зрусіфікаваны. Такога прыкладу дэнацыяналізацыі не ведала новая і навейшаяы гісторыя. Таму пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 г. адразу вярнуцца на ўзровень 20-х гадоў не ўдалося. Гэта паслужыла адной з прычын палітычнай паразы БНФ. Парадокс сучаснай беларускай дзяржавы ў тым, што яна не стала інструментам нацыяналізацыі сваіх грмадзян, а хутчэй наадварот: інструментам дэнацыяналізацыі іх на карысць рускай нацыі. Сярод прычын гэтага феномена — сіла гістарычнай інерцыі (расійскага правінцыяналізму). Эфект гэтай інерцыі такі, што Беларусь, нечакана адсечаная ад Расіі (1991), паўтарала яе рухі. Складвалася ўраджанне, што ствараецца яшчэ адна паралельная руская дзяржава, яшчэ адна паралельная руская нацыя.

**Паскораны курс нацыяналізацыі 90-х гадоў XX ст.** За гады савецкай улады беларусы страцілі набыткі цэлага стагоддзя і ў 1991 г. зноў пачыналі шлях да ўяўленняў аб сваім нацыянальным адзінстве і адметнасці ад расійскага рэгіяналізму, як сто год назад — ад польскага, з той толькі розніцай, што гэты працэс асэнсавання зараз ішоў у складзе беларускай дзяржавы. Перыяд, калі беларусы хацелі быць рускімі больш за рускіх прайшоў на працягу 1995 года (пасля рэферэндума). Нэазаходнерусізм замяніла ў 1996 г. ідэя федэратыўнага саюза з Расіяй. Незадаволенасць шчырасцю расійскіх імкненняў да інтэграцыі нарадзіла ідэю беларускага панславізму (1997). Але калі славянскія народы Балкан ідэя славянскага адзінства ў свой час ратавала, то беларусаў — губіла. Расія па-ранейшаму настолькі "любіць" братнюю Беларусь, што гатова яе паглынуць. Таму ідэя панславізму хутка страціла ў беларускім грамадстве сваю прываблівасць. **Імклiва губляе папулярнасць інтэграцыя па-савецку ўвогуле. Ужо мала хто верыць, што сяброўскіх пачуццяў да Расіі дастаткова, каб яна падкармлівала Беларусь**. Усё гэта — рухі жывой беларускай нацыі. Яна паскорана праходзіць свай былы стогадовы шлях. Зараз народ усведамляе аб сваім існаванні, аб сваёй адметнасці больш выразна, чым ў 1991 г. Павольна, але пашыраецца нацыяналізацыя новай наменклатуры.

**Назойлівая думка.** Вось ужо амаль 80 гадоў беларусы пасля распаду Расійскай імперыі ідуць, здаецца, ўсляпую, невядома куды. Іх нязменнай фундаментальнай ідэяй на працягу ўсяго XX ст. і цяпер застаецца ідэя федэралізму. Да федэралізму ўсіх народаў, усяго свету, як вольныя з вольнымі, як роўныя з роўнымі, імкнуліся беларусы ў XIX ст. Федэратыўны саюз дзеячы БНР прапаноўвалі ўсім суседзям. Ідэя федэралізму з Польшай ці з Расіяй сілкавала надзею беларускіх патрыётаў на ўз'яднанне сваіх земляў у міжваенны перыяд. З гэтай жа ідэяй былі звязаны і надзеі на падтрымку Беларусі дзяржавамі Заходняй Еўропы ў гады мінулай вайны. У складзе савецкай *Расіі* беларусы ажыццявілі ў нейкай ступені свае ідэалы федэралізму. А зараз імкнуцца іх узнавіць. Урэшце, яны робяць тое ж, што і ўсе еўрапейцы. Імкненне да Расіі не ёсць сведчанне поўнай адсутнасці нацыянальнай самасвядомасці. Гэта не этнічная салідарнасць з расіянамі, гэта салідарнасць — дзяржаўная, палітычная. Расце ўсведамленне вартасці беларускай дзяржавы, яе суверэннасці. Імкненне да федэралізму не ёсць сведчаннем унутрана характэрнай для беларускай нацыі несамадастатковасці. Гэта – яе непазбежная стратэгія самавыжывання ва ўмовах найскладанейшай геапалітычнай сітуацыі. І трэба спадзявацца, што імкненне да федэралізму, якое часова манапалізіравана Расіяй і яе прыхільнікамі, нарэшце прывядзе беларусаў ад "уніі" імперскай праз незалежнасць на агульнаеўрапейскі шлях (да уніі дэмакратычнай).

**Інтрыга ў жыцці беларусаў.** Калі беларусы заяўлялі аб сваім праве на незалежнае палітычнае жыццё, ці стваралі нешта годнае, то гэта заўсёды інтэрпрэціравалася як нейчая інтрыга. Беларускую газету "Наша ніва" рускія лічылі польскай інтрыгай, а палякі — інтрыгай рускай. БНР лічылася інтрыгай польскай, а БССР — руска-бальшавіцкай. Нават зараз абвяшчэнне незалежнасці Беларусі расцэньваецца як інтрыга ЦРУ, а спробы збліжэння з дэмакратычнай Расіяй — як інтрыга Масквы. Беларусы прайшлі добрую школу інтрыгі, а таму могуць лёгка ператвараць яе са сродка знявагі ў зброю самаабароны.

**Ідэалы вольнасці беларусаў.** Міжнародная грамадскасць ды і самі беларусы вельмі мала ведаюць пра ідэалы вольнасці, што складваліся на абшарах Беларускага краю за час двухсотгадовага панавання тут Расіі. Адсюль – такое ўяўленне і сумненні ў жыццяздольнасці беларускай нацыі. Але новая і навейшая гісторыя беларусаў — гэта і ёсць гісторыя іх памкненняў да незалежнасці ад Расіі. У вызваленчай барацьбе беларусаў можна выдзеліць пяць перыядаў.

**I.** Першы з іх праходзіў пад сцягам аднаўлення страчанай дзяржаўнасці — Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Ён характарызаваўся прапольскімі ілюзіямі. За няпоўныя сто гадоў расійскага панавання беларусы чатыры разы -- 1794, 1812, 1831 і 1863 -- уліваліся ў безвыніковую барацьбу народаў былой Рэчы Паспалітай з царызмам. Праз марную надзею на вяртанне шляхецкай вольнасці прайшлі таксама літоўцы, палякі, украінцы. Тым не менш, адданасць народаў былой Рэчы Паспалітай ідэалам вольнасці прыспешыла адмену ў Расіі прыгоннага права.

**II.** На другім этапе ілюзіі прапольскія змяніліся на прарасійскія. Другі перыяд пачынаўся ад 80-х гадоў XIX ст., калі "гоманаўцы" (беларускія народнікі) вылучылі ідэю адміністрацыйна-культурнай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі. Праз марныя надзеі на расійскую дэмакратыю прайшлі не толькі беларусы, але і іх суседзі — украінцы, палякі, літоўцы. Тым не менш, менавіта імкненне народаў Расіі да ідэалаў парламентарызму і нацыянальнай аўтаноміі дазволіла звергнуць царызм, пры якім надзеі на незалежнасць былі нерэальнымі.

**III.** Трэці перыяд (канец 1915 -- 1945) вылучаўся шматварыянтнасцю ідэалаў. Побач з захаваннем адданасці аўтаноміі, а потым федэратыўнаму саюзу з Расіяй бесперапынна ўзнікалі іншыя. І найперш — ідэя поўнай незалежнасці Беларусі. За яе змагаліся дзеячы БНР, патрыёты Заходняй Беларусі, беларускія патрыёты часоў Другой сусветнай вайны, лясныя браты пасляваеннага антысавецкага супраціўлення. Увесь трэці перыяд прайшоў для беларусаў, літоўцаў, палякаў, украінцаў ды і рускіх пад знакам пошукаў і ажыццяўлення ідэалаў нацыянальнай дзяржаўнасці, якія не маглі быць ідэнтычнымі, выклікалі канфлікты і непаразуменні. А гэтым карысталіся такія сацыяльна небяспечныя эксперыментатары, як камуністы і нацысты. І ўсё ж супадзенне ідэалаў антырасізму народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы дазволіла ім вызваліцца ад пагрозы нацыскага заняволення.

**IY.** Чацвёрты этап у гісторыі ідэалаў вольнасці беларусаў (50-80-я гады) стаў самым змрочным. Нацыя знаходзілася ў каматозным стане. Палітычная апазіцыя практычна не існавала. Выпраменьваць нацыянальныя ідэалы пасля Курапатаў не было каму. Пра незалежнасць марылі адзінкі, імёны якіх яшчэ не ўсе вядомы. І толькі ў беларускім замежжы ідэя незалежнасці Бацькаўшчыны зберагалася, напаўняла сэнсам жыццё палітычных выгнаннікаў. Гэта ідэя вяла беларускую эміграцыю ў шэрагі змагароў за дэмакратыю, што падрыхтавалі крах камунізму.

**Y.** З сярэдзіны 80-х гадоў услед за гарбачоўскай лібералізацыяй пачынаецца пяты перыяд, перыяд узнаўлення і ажыццяўлення незалежніцкіх ідэалаў у Беларусі, якія, у адрозненне ад папярэдніх, спалучаюцца з ідэаламі інтэграцыі ў міжнародную супольнасць. Міжнародная салідарнасць якраз і дазволіла беларусам побач з народамі Цэнтральна-Усходняй Еўропы пазбавіцца ад бальшавіцкага таталітарызму. Але для канчатковага сцвярджэння сваіх нацыянальных ідэалаў грамадзяне Беларусі мусяць знайсці мужнасць пераадолець духоўна-ідэалагічную і паталагічную залежнасці ад Расіі і выпрацаваць мадэль цывілізаванага супрацоўніцтва з ёй, як, прынамсі, і з іншымі еўрапейскімі краінамі.

***Выпрабаванне будучыняй.*** *У Беларусі існуе два варыянты дасягнення цывілізаванасці — праз беларускую культурна-гістарычную традыцыю і праз савецка-расійскі правінцыяналізм. Да 1995 г. пераважаў першы варыянт, які разглядаўся яго працаўнікамі як згуба для народа. Пасля 1995 г. пераважае другі варыянт, які, і зноў жа, яго працаўнікамі разглядаецца як шлях у нікуды. У гэтым ёсць празмерная драматызацыя, характэрная для палітыкаў. Самасцвярджэнне сучаснай беларускай нацыі на аснове беларускай культурна-гістарычнай традыцыі — найлепшы варыянт. Разрыў з гістарычнай традыцыяй ускладняе гэты працэс, але не прыпыняе. Нацыянальнае самасцвярджэнне можа адбывацца і на аснове расійскага рэгіяналізму. Зразумела, што шлях ад расійскага правінцыянаму да беларускасці — малапрадуктыўны і больш доўгі. Але наяўнасць беларускай апазіцыі патрабуе ад прыхільнікаў расійскага рэгіяналізму павышанай адказнасці за выбраны накірунак і ў выпадку тупіковай сітуацыі стварае эфект ці ўзаемазамены, ці ўнутранай кансалідацыі.*

**Са Святам на тыдні усіх, хто ў гэтыя дні нарадзіўся, пабраўся шлюбам і г. д.**

Рэдакцыя "Скарба Думак".

***Скарб Думак. № 5.***
*Незалежнае рознабаковае выданне.*
Галоўны рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.
Тэлефон у Менску: 233 61 89.
Наклад 299 асобнікаў.
**E-mail: lebiedz@tut.by.**
*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*
*Распаўсюджваецца бясплатна.*
**24 лістапада 2003 года.**
Выходзіць у панядзелкі.